Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

22 (582) 2 чэрвеня 2011 года
Кошт свабодны.

## Бывай, школа!

31.05.2011 г.
г. Глыбокае, СШ №3.



Фота Ул. Скрабатуна

Браслаўскі раён

# Прыглянуўся край гоншчыкам

■ Чэслаў Якубовіч

**Сапраўды ўнікальная прырода Браслаўскага раёна з яго воднымі прасторамі, узгорыстай мясцовасцю даўно прыцягвае аматараў адпачынку на прыродзе.**

Азёрны край мае таксама лепшыя ў краіне магчымасці і для правядзення спаборніцтваў па аўтамабільных ралійных гонках. Тут днямі зноў прайшоў самы прэстыжны этап сёлетняга аўтамабільнага сезону – "Славянскі Кубак". Першы раз такія гонкі на Браслаўшчыне былі арганізаваны летась і атрымалі статус міжнароднага беларускага этапа пад брэндавай назвай "Braslav Rally Challenqe". Гэты этап гонак стаў адным з абавязковых у ходзе розыгрышу прызоў адкрытага чэмпіяната Расіі. Акрамя расіян і гаспадароў гонак, на старт выйшлі і мацнейшыя аўтагоншчыкі з Украіны, усяго каля трох дзясяткаў экіпажаў. Яны выяўлялі мацнейшых на працягу двух дзён напружанай барацьбы. Для гледачоў самым цікавым было назіраць, як вадзіцелі экстра-класу пераадольвалі 12 спецыяльных участкаў язды па гравійнай дарозе на вельмі высокіх хуткасцях. Ад такой язды проста дух захоплівае, а звышхутка гоншчыкі імчалі і манеўравалі на працягу 132 кіламетраў. Арганізатары ралі паклапаціліся, каб шматлікія гледачы загадзя ведалі, як пад'ехаць і дзе можна бяспечна назіраць за самымі цікавымі момантамі гэтых стартаў. Уся інфармацыя аб гонках на Браслаўшчыне шырока прадстаўлена на адпаведным сайце ў Інтэрнэце.

Пастаўскі раён

# З надзеяй на японцаў

■ Кастусь Александровіч

**Даволі сур'ёзна ліхарадзіла апошнім часам філіял тэлезавода "Гарызонт" у Паставах, завод радыёкампанентаў "Беліт", які нават прастойваў тыднямі з-за адсутнасці камплектуючых.**

У выніку справа дайшла да змены кіраўніцтва, і ў пачатку вясны галаўное прадпрыемства прызначыла сюды новага, шостага па ліку дырэктара, 33-гадовага Яўгена Захно. Перад гэтым ён меў вопыт працы ў адным з расійскіх холдынгаў, ведае толк у бізнесе. Малады кіраўнік за кароткі тэрмін зрушыў справы і змог зацікавіць у супрацоўніцтве сусветнавядомую японскую кампанію бытавой электронікі "Акаі". На заводскім канвейры пасняхова былі сабраны некалькі дзясяткаў сучасных тэлевізараў гэтай вядомай маркі. Тэхнічны ўзровень персаналу, ступень яго падрыхтоўкі і дысцыпліны задаволіў партнёраў з Усходу. Цяпер на заводзе "Беліт" у месяц выпускаюць больш за 2 тысяч тэлевізараў, праўда, толькі 6-га пакалення. Аднак на чарзе выпуск ужо сучасных плазменных шматдзюймовых тэлевізараў гэтага брэнда. Іх выпуск павялічыцца да 6 тысяч штук у месяц, а кантраляваць вытворчы працэс у райцэнтры будзе прадстаўнік фірмы. Адзінае, што гэтыя ЖК-тэлевізары пастаўскай зборкі будуць прадавацца выключна на рынках Расійскай Федэрацыі. Дарэчы, гэта невыпадкова, бо ў нашых суседзяў- расіян заробкі і адпаведна ўзровень жыцця істотна апярэджваюць пакупніцкія здольнасці беларусаў.

Полацкі раён

# Быў і застаецца першым

■ Станіслаў Раманчук

**Сучасная гісторыя дзейнасці дзяржаўнага ўніверсітэта ў Полацку не дасягае і паўстагоддзя.**

Аднак тут добра ведаюць, што на беларускіх землях першая ВНУ адкрылася 430 гадоў назад менавіта ў гэтым, самым старажытным горадзе краіны, калі ў далёкім 1581 годзе паўстала тут іезуіцкая акадэмія. І рэктарат не толькі ведае, але і імкнецца развіваць універсітэт як ВНУ класічнага еўрапейскага тыпу. Таму і паўстаў тут нядаўна ў дворыку былой акадэміі арыгінальны гадзіннік з фігуркамі і боем курантаў. Выкладчыкі і студэнты з энтузіязмам выканалі большую частку работ ля корпуса былога іезуіцкага калегіума, прадзеда сучаснага ВНУ, дзе працуюць два яго факультэты. Яшчэ раней ва ўніверсітэце адкрылі помнік сучаснаму студэнту ў Полацку і студэнтцы ў адным з універсітэцкіх карпусоў у суседнім Навапалацку. Да дня заснавання навучальнай установы ўжо ў трэці раз палачане правялі ўрачыстую цырымонію ўзнагароджання лепшых выкладчыкаў і студэнтаў. Нават спецыяльна для яе вырабілі 40-метровую чырвоную дывановую дарожку з зоркамі, якія сімвалізуюць шлях да ведаў, як у самых вядомых ВНУ свету. У нечым гэта ўрачыстасць была падобнай на ўніверсітэцкі "Оскар", як у славутым Кембрыджы альбо Оксфардзе. Пра кожнага з 30 прэтэндэнтаў у 10 намінацыях падрыхтавалі відэаролікі, а ганаровую ўзнагароду "Гонар і слава ПДУ" атрымаў доктар навук, прафесар фізікі Уладзімір Груздзеў, кіраўнік полацкай фундаментальнай навуковай школы.




## Лічба нумара

**237** тон – столькі толькі адной солі (як адзначалася на нядаўняй відэаканферэнцыі ўрада з рэгіёнамі па разглядзе панікі на спажывецкім рынку)было прададзена за адзін майскі дзень толькі ў Брэсцкай вобласці. Сітуацыя ў іншых рэгіёнах краіны і беларускай сталіцы напрыканцы мінулага месяца мала чым адрознівалася ад той, што склалася паблізу польскай граніцы. Паўсюдна ў Беларусі людзі як па камандзе штурмавалі спачатку банкаматы, а потым душыліся ў чэргах і расхоплівалі прадукты харчавання, бытавую тэхніку, будматэрыялы.

Трэба адзначыць, што народ беларускі не дурны і паступаў правільна, хоць і не меў дакладнай інфармацыі аб той сітуацыі, якая складвалася вакол умоў прадастаўлення крэдыту ЕўрАзЭС і прымаемых мер па стабілізацыі айчыннага валютнага рынку. Неўзабаве наступіў "чорны дзень" для беларускай эканомікі і ўсіх нас пасля праведзенай чарговай дэвальвацыі беларускага рубля адразу на 56 %. Характэрна, што слова "дэвальвацыя" дзяржаўныя СМІ пазбягалі і гэту навіну аднеслі да другарадных, хоць яна закранула практычна кожнага.

Перад гэтым паўсюдна па краіне да глыбокай ночы назіраліся вялізныя чэргі на АЗС, паколькі з 24 мая рознічныя цэны на бензін і салярку павялічыліся яшчэ на 20-24 %. І хоць курс долара вырас, адразу пасля гэтага ў буйнейшых гандлёвых цэнтрах Мінска не было на працягу некалькіх дзён у продажы нават беларускіх халадзільнікаўі пральных машын. А калі гэта тэхніка з'явілася на прылаўках крам, то ўжо па павышаных цэнах. Як сцвярджаюць спецыялісты, каб адразу ў РБ пайшлі зімой на дэвальвацыю свайго рубля, то ён "абваліўся" б на 10-25 %, а не так, як зараз. Як і чакалася, нават пры курсе 5000 руб/USD зялёненькія "баксы" у абменніках не з'явіліся.

Увогуле, сёлетні красавік стаў самым "гарачым" у сэнсе інфляцыйных працэсаў. За апошнія 8 гадоў не было такога вялікага росту ўсіх цэн за месяц адразу на 4,5 %. Вось што і дэстабілізавала абстаноўку. Ды і ўвогуле, жыць у краіне становіцца ўсё цяжэй і даражэй. Да прыкладу, харчовыя тавары ў 2011 годзе падаражэлі ў сярэднім на 11,3 % толькі за 4 месяцы, што амаль супадае з індэксам цэн на прадукты за ўвесь мінулы год (13,1 %). Вобразна кажучы, Беларусь апынулася ў стане "турбулентнасці" і пазбавілася сваёй знакамітай "стабільнасці".

Цікава, што яшчэ ў пачатку снежня на чарговым Усебеларускім сходзе перад выбарамі з высокіх трыбун сцвярджалася, што не можа быць Беларусь неплацеждольнай, калі так дынамічна развіваецца беларуская эканоміка. Аказалася, быццам накаркалі, калі суайчыннікі пачалі напрыканцы вясны скупляць усё запар. І не толькі ў адным "свядомым" Мінску, але і ў палескай глыбінцы, у аддаленых вёсачках Віцебшчыны панаваў ажыятаж. У адной толькі нашай вобласці продаж солі вырас на 70 %, рэкорд амаль што для кнігі рэкордаў Гінэса. Таксама жыхары Прыдзвіння расхоплівалі макароны і крупы (рост продажу 50 %), муку (40 %), цукар (30 %).

Усіх цікавіць, што будзе далей? Спажывецкі рынак неўзабаве стабілізаваўся, але і падстаў для аптымізму няма. Нам прыйдзецца жыць у значна больш жорсткіх умовах, грамадства на практыцы сутыкнецца з неабходнасцю існаваць па сродках і прывыкаць да новых цэн. Краіна ў цэлым адкацілася ў сваім развіцці дзесяць гадоў на 5 назад, але пры гэтым змянілася абстаноўка вакол нас на Захадзе і з боку Расіі. Толькі сёлета прыйдзецца заплаціць "Газпраму" за расійскі газ вялізную суму 5,625 млрд. долараў (на 1,6 млрд. болей, чым летась).

Інвестыцый у беларускую эканоміку кот наплакаў, знешнепалітычны фон вакол нас негатыўны. Абвалілася і галоўнае дасягненне мінулай пяцігодкі – 500 долараў сярэдніх заробкаў. Толькі завоз іншамарак у РБ за 4 месяцы падскочыў да 134 тысяч штук, і значная іх колькасць застанецца на беларускай тэрыторыі, не будзе прададзена расійскім суседзям. Вось па апошняй пазіцыі сапраўды знізяцца цэны з улікам яшчэ і рэзка падаражэўшага паліва. Таму ўсім прыйдзецца лічыць кожны рубель і жыць эканомна, з улікам валютнага крызісу, росту цэн і чарговай дэвальвацыі нацыянальнай валюты.

## Надвор'е ў Глыбокім

www.rp5ru

| | чацвер 02.06.11 | | | | пятн. 03.06.11 | | | | сб. 04.06.11 | | | | нядз. 05.06.11 | | | | пн.06.06. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | +16 | +22 | +26 | +23 | +16 | +16 | +19 | +18 | +13 | +16 | +19 | +17 | +10 | +18 | +22 | +21 | +14 | +20 | +25 |
| Ціск, мм | 752 | 753 | 753 | 752 | 753 | 754 | 754 | 754 | 754 | 754 | 752 | 750 | 749 | 749 | 748 | 746 | 746 | 745 | 743 |
| Вільготнасць, % | 93 | 77 | 44 | 82 | 74 | 64 | 54 | 67 | 82 | 66 | 48 | 65 | 93 | 72 | 44 | 70 | 78 | 62 | 33 |
| Вецер м/сек | Ю-В 3 | Ю-В 2 | ШТЛ 0 | С-В 1 | С-В 4 | С 4 | С-З 5 | С 1 | С-В 4 | С 4 | С 4 | В 3 | ШТЛ 0 | ШТЛ 0 | Ю 1 | Ю-В 3 | Ю-В 4 | Ю 5 | Ю 6 |
| | | 04:37 | 21:39 | | | 04:36 | 21:40 | | | 04:35 | 21:41 | | | 04:34 | 21:42 | | | 04:33 | 21:43 |
| | | 04:44 | 22:28 | | | 05:40 | 23:13 | | | 06:49 | 23:46 | | | 08:05 | - | | | 09:27 | 00:12 |

## Дзень за днём

**Падчас фінансавага крызісу беларусы толькі ў красавіку забралі з банкаў амаль 10 % валютных укладаў. На пазабіржавым айчынным рынку курс $ перавысіў 7.300 рублёў. Па тэмпах дэвальвацыі нацыянальнай валюты Беларусь выйшла ў абсалютныя "лідары" на еўрапейскім кантыненце. Міністэрства абароны паведаміла, што ў Беларусі не плануецца павелічэнне тэрмінаў праходжання тэрміновай ваеннай службы. Кіраўніцтва краіны пачало комплексныя праверкі работы мясцовых улад з насельніцтвам ва ўсіх рэгіёнах, дзе актыўна ўзяліся праўраць стан працоўнай дысцыпліны на прадпрыемствах і ў арганізацыях.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Патэнцыйны супернік Б. Абамы на прэзідэнцкіх выбарах 2012 года – буйны бізнесмен ад рэспубліканцаў, мільярдэр Дональд Трамп – адмовіўся ад удзелу ў іх .

**Расія.** МЗС РФ заявіла, што прысуды ўдзельнікам пратэстных выступленняў на плошчы 19 снежня ў Беларусі не могуць не выклікаць пытанняў.

**Егіпет.** 83-гадовы экспрэзідэнт Х. Мубарак папрасіў прабачэння ў народа і амністыю за дапушчаныя памылкі, заявіў, што гатовы перадаць краіне ўсе свае грошы і ўласнасць.

**Лівія.** Буйнейшая ў краіне кампанія Arab Gulf Company поўнасцю спыніла здабычу нафты да заканчэння ваенных дзеянняў і зыходу са сваёй пасады М. Кадафі.

**Бельгія.** Кіраўніцтва Еўрасаюза, Еўрапарламента, як і ЗША, імгненна асудзілі прыгавор экскандыдату ў прэзідэнты А. Саннікаву (5гадоў) і іншым удзельнікам падзей на плошчы.

**Расія.** Прэзідэнт РФ Д. Мядзведзеў у прамым эфіры тэлеканала "Расія 24" назваў "небяспечнымі для грамадства" чыноўнікаў, якія бясконца доўга сядзяць на сваіх месцах.

**Літва.** Калі Беларусь пачне ўзводзіць АЭС за 50 км ад сталіцы Літвы, заявіў глава МЗС краіны А. Ажубаліс, то гэта на дзясяткі гадоў сур'ёзна азмрочыць двухбаковыя адносіны.

**Данія**. Каб абараніцца ад напліву нелегальных мігрантаў, краіна аднавіла кантроль на мяжы з Германіяй і Швецыяй, пачала ўзводзіць новыя КПП коштам 36 млн. еўра.

**Францыя.** Папулярны палітык, глава МВФ, адзін з магчымых кандыдатаў у прэзідэнты Д. Строс-Кан быў арыштаваны ў ЗША па абвінавачанні ў сексуальным злачынстве.

**Швейцарыя.** Жыхары кантона Цюрых прагаласавалі на рэферэндуме за легалізацыю эўтаназіі невылечна хворых не толькі швейцарцаў, але і турыстаў з усяго свету.

**Польшча.** У тэатры Польскім у Варшаве ўручылі прэмію імя Р. Капусцінскага беларускай пісьменніцы Святлане Алексіевіч за кнігу "У вайны не жаночае аблічча".

**Малдова.** У першыя дні работы ў Кішынёве знялі з маршрутаў з-за розных дэфектаў 16 беларускіх тралейбусаў з закупленых 25, кошт адной машыны перавышае 125 тыс. еўра.

**Англія.** Сур'ёзныя спрэчкі сярод вучоных выклікаў намер брытанскіх медыкаў вызначаць працягласць жыцця жадаючых з дапамогай тэстаў коштам 500 еўра.

**Непал.** Падчас узыходжання на адну з горных вяршынь Гімалаяў прапалі два вопытныя беларускія альпіністы з Мінска Сяргей Белавус і Мікалай Бандалет.

**Азербайджан.** Усяго за 2 месяцы 21-гадовы студэнт Эльдар Касімаў і 30-гадовая Нігяр Джамал стварылі дуэт і перамаглі на конкурсе "Еўрабачанне-2011".

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Салігорск.** ААТ "Беларуськалій" можа трапіць у спіс прадпрыемстваў РБ, дзе ЕС можа ўвесці жорсткія эканамічныя санкцыі, як і "Белнафтахім", "Трайпл", "Белтэхэкспарт".

**Мінск.** Дырэктар аналітычнага цэнтра "Стратэгія" Леанід Заіка параўнаў цяперашні беларускі рубель з грашовым сурагатам, яго абвал справакаваў некваліфікаваны ўрад.

**Старыя Дарогі.** Днём ля вёскі Паськова гара ў ДТЗ пры сутыкненні іншамаркі з грузавіком загінулі 21-гадовы кіроўца з райцэнтра і 2 студэнты 17 і 18 гадоў.

**Мінск.** Абавязковы экзамен па замежных мовах у СШ Беларусі, як пацвердзіў міністр адукацыі С. Маскевіч, будзе на 90 % вусным, каб выявіць навыкі "маўлення" выпускнікоў.

**Быхаў.** Буйнейшы айчынны экспарцёр тэкстылю, ААТ "Магатэкс", адкрыла ў райцэнтры новы сучасны цэх для 40 мясцовых жанчын, якія рады заробкам пад 1,5 млн. рублёў.

**Мінск.** Віцэ-прэм'ер Анатоль Тозік паведаміў аб магчымым павышэнні працоўных пенсій у бліжэйшыя 2-3 месяцы зыходзячы з цяперашніх эканамічных магчымасцей РБ.

**Лагойск.** Праверка Дзяржкантролю выявіла ў раёне вялізныя прыпіскі і падман: з амаль 9 тыс. тон сабранага летась збожжа трэць ураджаю, больш за 3,5 тысячы, былі толькі на паперы.

**Столін.** Нападпітку 55-гадоваму мужу здалося, што жонка гаворыць па тэлефоне з чужым мужчынам, з рэўнасці ён сарваў з жонкі бюстгалтар і задушыў ім сваю суджаную.

**Мінск.** Міліцыя знайшла ля Дома правасуддзя некалькі разбітых бутэлек з "кактэйлямі Молатава", якімі невядомыя спрабавалі падпаліць будынак пасля працэсаў па плошчы.

**Ганцавічы.** Студэнтцы 4 курса гістфака БДУ Маі Абромчык з-за пераламанай каля плошчы спецназаўцам нагі прыйшлося вярнуцца дамоў і перавесціся на 5 курс завочна.

**Шклоў.** Падчас наведвання родных мясцін А. Лукашэнка вырашыў пабудаваць у Беларусі новы завод па вытворчасці грыбоў вешанак, на гэты праект трэба 10 млн. USD.

**Слонім.** Вучаніца 9 класа СШ №3 райцэнтра Анастасія Шогіна стала ў Турцыі пераможцай міжнароднага конкурсу "Мініміс свету-2011" .

**Мінск.** Арцыбіскуп Клаўдыё Марыя Чэлі, старшыня Папскай рады, у СМІ заявіў, што Ватыкан заўсёды будзе з тымі журналістамі-прарокамі, што ідуць праз пакуты да праўды.

**Пухавічы.** Гвалтоўна звольненую настаўніцу вышэйшай катэгорыі Талькаўскай СШ Н. Ільініч падтрымалі матэрыяльна 117 грамадзян РБ, абласны суд не аднавіў яе на працы.

**Мінск.** Расійскі спецыяліст, 40-гадовы легендарны футбаліст С. Аўчыннікаў стаў 24-м па ліку галоўным трэнерам "Дынама" з пачатку стагоддзя, гэта антырэкорд у Еўропе.

## Урад не плануе сёлета павышаць тарыфную стаўку першага разраду



■ **Сяргей Каралевіч, БелаПАН**

Урад не плануе сёлета павялічваць тарыфную стаўку першага разраду, паведаміў намеснік міністра эканомікі Андрэй Тур, выступаючы 27 мая на сумесным пасяджэнні палат парламента.

"Каб не разваліць і не развараць даходы нізкааплатных і высокааплатных людзей,вырашылі тарыфную стаўку не павялічваць", – сказаў ён.

Замест гэтага, паведаміў намеснік міністра, урад плануе "ўключыць механізм індэксацыі". "Мы будзем мець індэксацыю да снежня 2010 года ад 130 да 170 тысяч рублёў. Гэтага мала, але ў сённяшніх умовах павялічваць грашовую масу вельмі небяспечна".

Тур таксама паведаміў, што сёлета плануецца яшчэ павялічыць пенсію. "Бо тарыфы па ЖКГ будуць рухацца, хутчэй за ўсё, пенсіі павялічым у верасні, да пачатку ацяпляльнага сезона. У жніўні плануецца павялічыць сацыяльныя пенсіі, а з 1верасня – стыпендыі".

Тур адзначыў, што неабходна будзе павялічыць расходы на адрасную сацыяльную дапамогу. Паводле яго слоў, у краіне 5,2% насельніцтва адносіцца да малазабяспечаных. Аднак, паводле яго слоў, у сувязі з ростам курсу долара да гэтай катэгорыі можа быць аднесена да 10%. "Для адраснай дапамогі малазабяспечаным спатрэбіцца каля 100 млрд. рублёў".

## Пенсіі ў Беларусі з 1 чэрвеня павялічаць у сярэднім на 13,7%

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка 26 траўня падпісаў указ № 215 "Аб павышэнні працоўных пенсій". Указам прадугледжана з 1 чэрвеня 2011 г. зрабіць пераразлік працоўных пенсій, зыходзячы з сярэдняй заработнай платы працаўнікоў за I квартал 2011 года.

Апошні пераразлік пенсій быў у лістападзе 2010 года. Адначасова ў мэтах дадатковай падтрымкі атрымальнікаў мінімальных працоўных пенсій з 1 чэрвеня 2011 года прадугледжана павялічыць даплату да такіх пенсій з 15% да 20%. З улікам павышэння даплаты пенсіі ў сярэднім вырастуць на 13,7% (на Br80,5 тыс.) – да Br669,8 тыс.

На рэалізацыю мер па сацыяльнай падтрымцы пенсіянераў патрабуецца Br201,7 млрд (да канца года - Br1411,9 млрд). Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Мінпрацы і сацабароны мае неабходныя для гэтага сродкі.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Полацк.** У ліку 9 буйных прадпрыемстваў краіны завод "Тэхналіт Полацк" 24 чэрвеня выстаўлены на продаж з кантрольным пакетам акцый Дзяржкаммаёмасць Беларусі.

**Бешанковічы.** Глава вобласці А. Косінец заявіў, што рэгіён да 2013 года павялічыць долю мясцовых відаў паліва ў існуючым балансе кацелень ЖКГ з 59,8 % цяпер да 75 %.

**Наваполацк.** У ліку 7 прадпрыемстваў канцэрна "Белнафтахім" ААТ "Нафтан", як і другі НПЗ у Мазыры, спрацаваў у 1-м квартале са стратамі пры росце вытворчасці на 29,3 %.

**Орша.** Адна з буйных расійскіх федэральных гандлёвых сетак выказала зацікаўленасць узвесці ў горадзе свой гандлёва-забаўляльны цэнтр з недарагімі таварамі і прадуктамі.

**Віцебск.** У 5 касах горада і па Інтэрнеце пачалі прадаваць білеты на канцэрты фестывалю "Славянскі базар", самыя дарагія - на цырымонію адкрыцця (кошт 160-450 тыс. рублёў).

**Талачын.** Кансервавы завод яшчэ на 100 гектараў павялічыў плошчы пад бульбу.

**Віцебск.** Пераможцам конкурсу "Адкрый для сябе Віцебск" стаў фотамайстар Ігар Балалайкін, ён атрымаў турпуцёўку на Украіну, журы разгледзела 3698 фотаработ.

**Орша.** Падчас знаходжання ў вёсцы Ляўкі А. Лукашэнка падарыў мемарыяльнаму музею-запаведніку Я. Купалы асобнік 1-га выдання драмы "Раскіданае гняздо" (1919 , Вільня).

**Віцебск.** Кіраўнік вобласці А. Косінец паведаміў аб намерах аднавіць у школах па суботах факультатыўныя заняткі па дапрызыўной ваеннай падрыхтоўцы і школьныя ціры.

**Полацк.** Падчас Дзён культуры Швецыі ў Беларусі Сафійскі сабор упершыню ў краіне услед за Белдзяржфілармоніяй прыме ў сябе шведскі камерны хор Святога Юханэса.

**Паставы.** Упершыню ўдзельнікамі XIV Міжнароднага фестывалю стануць музычны калектыў з Казахстана і ансамбль кітайскай народнай музыкі "Цзіншы" горада Далянь.

**Чашнікі.** Ганаровым госцем раёна стаў вядомы касманаўт, двойчы Герой СССР Георгій Грэчка, з райцэнтра родам была яго маці, у дзяцінстве ён тут гасцяваў у дзеда.

**Віцебск.** У доме 25-гадовага хлопца міліцыя выявіла сапраўдную цяпліцу для вырошчвання 14 кустоў канаплі па прынцыпе гідрапонікі для вырабу з яе наркотыкаў.

**Полацк.** Навучэнка мясцовага прафкаледжа Насця Кайровіч стала пераможцай прайшоўшага тут Рэспубліканскага конкурсу прафесійнага майстэрства будучых швачак.

**Віцебск.** На фестывалі ў гонар ансамбля The Beatles у суботу 18 чэрвеня дасць сольны канцэрт у Летнім амфітэатры Б. Грэбеншчыкоў, затым тэатр С. Наміна пакажа мюзікл.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

Ул. Скрабатун

# Тут пахаваны Язэп Корсак,

## удзельнік паўстання 1831 г., лічыць гісторык Аляксандр Івашчонак

Нагадаем, што нядаўна ў нашай газеце быў змешчаны матэрыял "Загадкавая магіла на Копцеўцы" ("ВГ" №20/580 за 19 траўня 2011 г), які быў напісаны аўтарам гэтых радкоў.

Было выказана меркаванне, што пад загадкавым надмагільным помнікам можа быць пахаваны Язэп Корсак, ваявода Мсціслаўскі, староста Дзісненскі, фундатар трох глыбоцкіх храмаў, уладальнік паўночна-ўсходняй часткі Глыбокага. Аднак каб тое сцвердзіць упэўнена – няма дастатковa фактаў. Больш за тое, пад літарай "J" можа хавацца хто заўгодна: Jan, Jerzy, Józef…

Агулам кажучы, згаданы артыкул быў запрашэннем да дыскусіі і далейшых супольных пошукаў ісціны. Адгукнуўся Аляксандр Івашчонак, бакалаўр гісторыі.

***

"Вельмі цікавая тэза,– піша Аляксандр Івашчонак. – Згаджаюся, што там пахаваны Юзаф (Язэп альбо Іосіф) Корсак (Józef Korsak), аднак ня той, які быў фундатарам касьцёла, кляштара кармэлітаў дый базыльянаў, але той Юзаф Корсак, які ўдзельнічаў у паўстаньні 1830-31. Дня 13 красавіка 1831 года паўстанцы прыехалі ў Лужкі, дзе ўтварылі Паўстанчы камітэт, у склад якога ўваходзіў Экзамінацыйны Камітэт (Komitet Egzaminacyjny) з графам Міхалам Храпавіцкім, які быў старшынёй, а пасьля яго адстаўкі Пётра Вінч. Заміж іх у склад Экзаменацыйнага Камітэта ўваходзілі Аўгуст Хомскі дый Юзаф Корсак. Акрамя Юзафа Корсака, у паўстаньні бралі ўдзел іншыя Корсакі – Ігнацы Корсак, які быў камендантам Глыбокага, дый Антоні Корсак, Вінцэнты Корсак, а таксама Патрыцы Корсак, які быў манахам-кармэлітам, меў 17 гадоў. Вельмі цікава, што пасьля падаўленьня паўстання Мураўёў увесь Дзісьненскі павет падзяліў на ключы й кварталы, на начальніка Глыбоцкага ключа прызначыў Юзафа Корсака, а на начальнікаў кварталаў Юзафа Акушку, Аляксандра Рудаміна, Ігнацы Кулешу, Рамана Фурса і Пятра Вінчу. Усе гэтыя асобы былі адказныя за супакой у горадзе. Вельмі цікава, чаму Мураўёў не пакараў Юзафа Корсака дый Пётру Вінчу, якія ўдзельнічалі актыўна ў паўстаньні. Але як бы там ні было, Юзаф Корсак быў найважнейшай асобай у Глыбокім – начальнікам Глыбоцкага ключа. Трэба меркаваць, што памёр ён перад 1862 г., таму відавочна маглі асьвяціць ягоны помнік на могілках айцец Панкрацы Крушынскі альбо айцец Барталамей Брыдыцкі (абодва слынныя кармэліты глыбоцкія). Чаму гэты помнік не з'яўляецца помнікам Юзафу Корсаку-фундатару? Мне здаецца, што пасьля закрыцьця кляштара кармэлітаў было б вельмі складана, каб пробашч Глыбоцкі асьвяціў помнік такому чалавеку на могілках параф'яльных ды яшчэ каб ніхто ня ведаў. Улады, напэўна б, не згадзіліся. Акрамя таго, могілкі на Копцеўцы ўжо пасьля паўстаньня былі закрытыя для пахаваньняў, так як не было мейсца. Колькі праблемаў меў Глыбоцкі пробашч, калі пахаваў на гэтых могілках шляхцянку «із іменія Жукі». Дарэчы, на Копцеўцы было двое могілак – старыя і новыя. Старыя зачыненыя ў 1862, «новыя» дзесь пад канец XIX ст, але зноў адчыненыя ў 1910 (калі добра памятаю). Мне здаецца, што Корсака трэба шукаць у Мярэцкіх."

Спадар Аляксандр знайшоў у згаданым артыкуле адну хібу. Там было пададзена, што абрэвіятура D.O.M. з латыні перакладаецца як "Божа, памятай пра мяне". Менавіта такое тлумачэнне засталося ў памяці аўтара артыкула са слоў супрацоўніцы Нацыянальнага Музея ў Варшаве. Тое было ў 1997 годзе...

Паводле тлумачэння спадара Івашчонка – "D. O. M. – па лацінску – Deo Optimo Maximo; па-польску–Bogu Najlepszemu Największemu; па беларуску – Богу Найлепшаму Найвялікшаму".

Тут спрачацца не будзем. Як кажуць у народзе, хто на што вучыўся. Прымем да ведама. Да таго ж праз 14 гадоў цяжка аднавіць у памяці ўсе дробязі той размовы.

На Копцеўцы пахаваны Юзаф Корсак, удзельнік паўстання 1831 года? Што ж, версія Аляксандра Івашчонка – цікавая і вартая ўвагі.

# Постаць святога Юстына паводле гістарычных крыніцаў

**Бурлівыя каляіны амаль трохсотгадовай гісторыі рэліквій святога Юстына-мучаніка на беларускай зямлі заахвочваюць нас схіліць калені ў мосарскім "Санктуарыі". Гэтыя рэліквіі былі прывезеныя з Рыму ў 1754 годзе і 84 гады захоўваліся пад апекай айцоў кармелітаў Босых у Старым Мядзелі, а з 1838 года знаходзяцца ў касцёле святой Ганны ў в. Мосар Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці і шмат ім прыйшлося "перажыць" за гэты час.**




**Кс. Аляксей Юркайць,**
*адміністратар парафіі Мосар.*

Як сцвярджаюць біяграфічныя крыніцы, Юстын нарадзіўся ў першай палове II стагоддзя ў рымскай правінцыі Флавія Неапаліс (Наблус, сучасная Іарданія). Бацькі Юстына, рымскія арыстакраты, выхавалі яго ў язычніцкай веры. Толькі ён вырас са школьнага ўзросту, выйшаў на пошукі "адзінага і праўдзівага Бога". Вывучаючы спачатку грэцкую філасофію, прыводзіў дадому найславуцейшых настаўнікаў таго часу, аднак ні адзін з іх не змог яму нічога сказаць пра адзінага і праўдзівага Бога. Аднойчы падчас шпацыру каля берага мора спаткаў старога старца, які ў доўгай размове пераканаў яго да хрысціянскай веры. Пасля грунтоўнага вывучэння Бібліі Юстын прыняў хрост і стаў прапаведаваць усюды Евангелле.

Прыбыў ён да Рыма, дзе хутка стаў вядомым настаўнікам і сабраў вакол сябе рымлян, якія прагнулі ведаў. Юстын напісаў шмат філасофскіх прац, у якіх бараніў хрысціянства, буйнейшая з іх – "Апалогія хрысціянскай рэлігіі", якую каля 150 года скіраваў імператару, ягоным сынам, сенату і рымскаму народу. Нястомна выступаў супраць пераследу хрысціянаў і публічна асуджаў катаў. Такая пастава не магла не справакаваць пераследу і супраць яго самога: разам з шасцю вучнямі ён быў арыштаваны і ўкінуты ў вязніцу. Вязняў вымушалі пакланяцца язычніцкі багам, пасля адмовы іх бічавалі, а потым публічна забівалі. Юстыну адсеклі галаву мячом каля 165 года.




Паводле легенды, пасля смерці цела мучаніка ўкінулі ў сажалку. Месца, дзе яно знаходзілася, паказалі гусі, якія там плавалі да той пары, пакуль не знайшлі і не забралі цела. Пасля пахавання да магілы Юстына прыходзілі вялікія натоўпы пілігрымаў, асабліва вясковых людзей, якія дасвядчалі шмат цудаў. Пасля легалізацыі хрысціянства Юстына абвясцілі святым, асабліва ўшаноўвалі яго як абаронцу веры. Праўдападобна, што яго магіла знаходзілася на месцы рымскага касцёла пад тытулам святых Плацыда і Пудэнцыі. Святы Юстын з'яўляецца апекуном філасафаў і апалагетаў хрысціянскай веры.

*Працяг тэмы на стар. 5*



Рэліквіі св. Юстына ў мосарскім касцёле св. Ганны.

# Рэзідэнцыя рымскага філосафа ў Мосары,

## Альбо Беларускі лёс філосафа-мучаніка

**Гэтая гісторыя нагадвае захапляльны прыгодніцка-дэтэктыўны раман. Аднак усё тое было насамрэч...**

■ **Кс. Аляксей Юркайць,** *адміністратар парафіі Мосар,*
**Часлава Пачкоўская.**

**Працяг.**
*Пачатак на стар. 4*

### Падарожжа да ўсходняга народа

Спрадвеку ў звычаях набожнай шляхты і магнатаў Рэчы Паспалітай асаблівай заслугай было фундаванне на тэрыторыі сваіх уладанняў хрысціянскіх святыняў. На гэтую мэту не шкадавалі грошай, з-за мяжы запрашалі архітэктараў і майстроў. Дзякуючы гэтай ахвярнасці на нашых землях з'явіліся касцёлы, цэрквы і помнікі архітэктуры.

"Антоні Кошчыц, уладальнік Старога Мядзеля, у першай палове XVII стагоддзя фундаваў касцёл і кляштар для айцоў кармелітаў босых у мястэчку такой жа назвы, значна прыклаўшы свае даброты і сілы, каб памураваць і аздобіць для Пана Бога святыню, кляштар і Крыжовую дарогу Збаўцы, капліцамі і галоўнай брамай. Каб гэтаму месцу яшчэ дадаць бачнай набожнасці, а праз гэта і святасці, прыкладаў вялікія намаганні ў Рыме, каб мець рэліквіі шматлікіх святых мучанікаў Юстына, Юстыны і Плацыда." Па жаданні Антонія Кошчыца, калі адбываў пакутную пілігрымку да Вечнага Горада, падчас аўдыенцыі ў Святога Айца Бэнэдыкта XIV склаў яму сваю просьбу аб атрыманні рэліквій. Па загадзе Святога Айца знайшлі грабніцу святога Юстына і падаравалі фундатару мядзельскага касцёла для большай пашаны і хвалы."

Паводле старажытнага звычаю, у тыя часы косці мучанікаў змяшчалі ў васкавых ці фарфоравых фігурах у выглядзе святога ў святочным ці рыцарскім убранні. Апісаныя рэліквіі святога Юстына, якія захаваліся ў непарушным стане да нашых часоў, прадстаўляюць фарфоравую фігуру святога амаль што натуральнага памеру. Яна прыбраная ў дарагія шаты рыцарскага строю, перапаясаная рыцарскім пасам і прышпілены ордэн у выглядзе шасціпромневай зоркі. Фігура змешчана ў пасярэбранай труне на правым баку, адна рука падпірае галаву, другая пакладзена на грудзях. Яна добра бачная праз шкло бакавой сценкі труны: святы нібы спіць са шчаслівай усмешкай на твары.

Мошчы святога Юстына ад самага пачатку захоўваліся ў старамядзельскім касцёле аж да часу першага падзелу Рэчы Паспалітай. Гэтыя землі, на якіх знаходзіўся Стары Мядзель, адышлі да Расійскай Імперыі. Айцы кармеліты апекаваліся рэліквіямі, якія ўшаноўваліся шматлікімі натоўпамі людзей. Прыходзілі людзі да Старога Мядзеля, да касцёла, да падножжа алтара і шукалі "палёгку ў цярпеннях, здароўе ў нямогласці і іншыя дабрадзействы, аб якіх прыходзілі прасіць, а хвала Мядзелю разносілася па абшарах краю, нават даходзячы ў найдалейшыя яго куточкі".

Пасля Лістападаўскага паўстання і скасавання на нашых землях ордэна кармелітаў у 1832 годзе мошчы святога Юстына засталіся ў зачыненым касцёле да 26 снежня 1834 года. Уладальнік і фундатар святыні даўно ўжо памёр, ягоныя ўладанні былі набытыя ва ўласнасць нейкіх Дварэцкіх.

Адзіным ратункам было выкраданне мошчаў. Каб уратаваць іх перад тым, як забяруць касцёл, трэба было хутка рэалізоўваць план выкрадання.

У апошнія дні 1834 года да віленскага ваеннага генерал-губернатара князя Далгарукава прыйшоў асабліва сакрэтны рапарт мясцовага паліцэйскага, які інфармаваў аб надзвычайным здарэнні ў Старым Мядзелі ў ноч з 26 на 27 снежня. Як даносіць падпалкоўнік Чартарыжскі, з зачыненага касцёла патаемна выкралі мошчы святога Юстына. Двайной вупражжу коней, пад аховай 10 мясцовых хлопцаў, арганіста той жа парафіі і айца бернардына Садоўскага былі перавезеныя яны да парафіяльнага касцёла ў Новым Мядзелі.


**Касцёл Маці Божай Шкаплернай кляштара кармелітаў у Мядзелі.**

Улады па гэтай справе распачалі следства.

Пачатковае дазнанне выявіла, што выкраданне рэліквій адбылося з ведання і нават з загаду мінскага біскупа Мацвея Ліпскага. Дэлегаваны да біскупа чыноўнік даведаўся аб выдадзеным уладамі рымакаталіцкай калегіі загадзе ад 12 снежня 1834 года, каб вярнуць рэліквіі з забранага старамядзельскага касцёла і патрабаваць тлумачэнняў ад царскіх уладаў. Біскуп Мацвей Ліпскі спасылаўся на рашэнне калегіі. Што да сродкаў выканнання загаду, матывуе, што з-за боязі хваляванняў і пратэстаў мясцовых людзей, і нават перашкодамі, якія маглі б учыніць уладальнікі маёнтку Дварэцкіх. Тлумачэнні біскупа выклікаюць вялікае незадавальненне ў царскіх уладаў. І хоць рэліквіі з гэтага часу знаходзяцца ў іншым касцёле, барацьба, каб іх атрымаць, не спыняецца.

### Вымушаны пераезд

На працягу доўгіх трох гадоў сваё права на рэліквіі святога Юстына абараняе дачка Антонія Кошчыца – фундатара касцёла – графіня Ганна Грэбніцкая, і ўладальніца маёнтка Стары Мядзель Дварэцкая. Першая матывавала сваю просьбу аб перадачы ва ўласнасць ёй, бо гэта фамільная каштоўнасць. Другая бачыла сваё права на іх як новая ўладальніца уласнасці і прапанавала нават пабудаваць для іх новы мураваны касцёл. У сваю чаргу, парафіяне Новага Мядзеля таксама прасілі аставіць рэліквіі ў іхнім касцёле.

Пабудова новых касцёлаў не была ў сферы інтарэсаў царскай улады, аднак біскуп Ліпскі прызнаў драўляны касцёл у Новым Мядзелі як неадпаведны да захавання такой святыні. Ён прапанаваў не аддаваць рэліквіі на захоўванне нашчадкам фундатара, а перавезці іх да парафіяльнага касцёла ў мясцовасці Мосар Дзісненскага павета – маёнтка графаў Бжастоўскіх. Мосарскі мураваны касцёл паўстаў з фундушаў Бжастоўскіх у 1792 годзе, а Барбара Бжастоўская была ўнучкай Антонія Кошчыца і дачкой Грэбніцкай. А таму маці Грэбніцкай ўжо тады пасялілася ў маёнтку дачкі і перавоз рэліквій яны дазволілі.

Улады, жадаючы пазбыцца святыні, якая зрабіла столькі непаразуменняў і надалей прыцягвала да сябе натоўпы вернікаў, паставілі ўмову, каб перавоз рэліквій адбыўся без урачыстай працэсіі і без прывітання ў Мосары. 28 жніўня 1838 года святы Юстын "прыбыў" да Мосара "амаль што патаемна", як праінфармаваў мінскі губернатар у сваім рапарце ваеннаму губернатару ў Вільні.

### Новая рэзідэнцыя рэліквій

Мосар – мястэчка ў цэнтры земляў, якія належалі ўладальнікам Дэспат-Зяновічам у XVI стагоддзі. Хутчэй за ўсё, менавіта ў іх двары затрымаўся на начлег сам кароль Стэфан Баторый падчас выправы на Пскоў. Пазней маёнтак часта змяняў уладальнікаў, перадаваўся як пасаг для дачок продкаў. У сваю чаргу, Мосар належаў да роду Пацаў, Валовічаў, Долмат-Ісакоўскіх, Млечкаў і Бжастоўскіх. Ва ўладанні роду Бжастоўскіх меўся амаль што 200 гадоў. Між іншым, у маёнтку прыйшоў на гэты свет творца "Паўлавай рэспублікі" Канстанцін Тургель, Павел Ксаверый Бжастоўскі. Менавіта рукой Ганны і Роберта Бжастоўскіх Мосар стаў сапраўднай магнацкай рэзідэнцыяй. У 1775-90 гадах пабудавалі яны прыгожы палац у стылі класіцызму, а ў 1792 годзе фундушам у 1000 дукатаў чырвонага золата фундавалі каталіцкую святыню пад тытулам святой Ганны. Касцёл пабудаваны ў неакласічным стылі, аднанефавы, формай і выглядам унутры ўзгадваў палацавую залу. Сцены былі аздобленыя расліннымі арнаментамі і адмыслова зробленымі рэзьбамі, якія прадстаўлялі чатырох Евангелістаў, дванаццаць Апосталаў і сцэну Хросту Пана Езуса.

Каралеўскую залу палаца ўпрыгожвалі выкананыя французскім разьбяром арнаменты, сярод якіх, як ва ўсіх польскіх каралёў, разьбой "Пагоні". Дэкарацыі паўсталі ў перыяд падзелаў і мелі вельмі выразныя патрыятычныя элементы, звязаныя з традыцыяй Рэчы Паспалітай.

Палац быў разрабаваны і спалены бальшавіцкім натоўпам у 1918 годзе, захавалася толькі некалькі фотаздымкаў і малюнкаў, ягоны план вывезлі ў архіў у Маскву. У міжваенны перыяд руіны палаца сфатаграфаваў вандруючы па нашых землях Ян Булгак.

У II-й палове XIX стагоддзя стаў уладаннем роду Пілсудскіх і знаходзіўся ў іх руках аж да II Сусветнай вайны. Да сваіх родных у маёнтак Мосар некалькі разоў прыязджаў і Юзаф Пілсудскі, у маладосці і пазней, апошні раз быў у 1930 годзе. Як падае прафесар М. Морэлёўскі, дзве акварэлі з мосарскага палаца, выкананыя ў 1916 годзе, знаходзіліся потым ў зборах Маршала ў Бэльвэдэрскім палацы ў Варшаве.

Вось такую мясцовасць "выбраў" для сябе святы Юстын. Сярод мясцовых людзей яшчэ ў XX стагоддзі была легенда, паводле якой воз з 8 канямі, які перавозіў рэліквіі, не мог рушыцца з месца, пакуль не выбралі шлях на Мосар. З дакументальнай гісторыі з перавозам мошчаў бачна, што гэта толькі легенда, якая сведчыць аб вялікай прывязанасці мясцовых вернікаў да "свайго" святога апекуна і сведчыць аб гонары выбранніцтва Мосарскай святыні. Ад гэтага часу дзеі з рэліквіямі звязаныя з гэтым кутком Віленшчыны. Ад самага пачатку яны мелі каласальны ўсеагульны культ вернікаў, і не толькі каталікоў, але і праваслаўных. Культ святога Юстына ўзрастаў з году ў год, праслаўляючыся цудамі і прыцягваючы многіх людзей. У 1851 годзе рэліквіярый быў апячатаны ксяндзом біскупам Вацлавам Жылінскім і запісаны адпаведны дакумент, які сведчыў аб прыналежнасці рэліквій да святыні ў Мосары.

***Працяг будзе.***


**Палац у Мосары.** *Малюнак Уладзіміра Скрабатуна.*


**Адна з залаў палаца ў Мосары.** *Архіўны здымак.*

**А.Г. Палілейка,**
*інжынер Глыбоцкага ГЭС.*

# Існуе вялікая небяспека лоўлі рыбы у месцах праходжання ЛЭП

Лета – пара адпускоў, пара адпачынку людзей ад паўсядзённай працы на вытворчасці. Шмат хто імкнецца правесці гэты час каля вадаёмаў. Сярод адпачывальнікаў нярэдка можна сустрэць тых, хто любіць парыбачыць. Да іх і хацелася б звярнуцца. Паважаныя аматары рыбнай лоўлі, вы павінны ведаць, што існуе вялікая небяспека лоўлі рыбы вудай у месцах праходжання паветраных ліній электраперадачы.

Сучасныя вудзільні выраблены з вугляпластыку і кампазітных матэрыялаў. Вы бачыце, купляючы вудзільна, што на іх маецца маркіроўка пра небяспеку набліжэння да частак, змешчаных пад электрычнай напругай і небяспекі рыбнай лоўлі падчас навальніцы, бо такія вудзільны валодаюць высокай токаправоднасцю.

**Купляючы вудзільна, вы бачыце маркіроўку пра небяспеку набліжэння да ЛЭП пад напругай і небяспеку рыбнай лоўлі падчас навальніцы.**

Лініі электраперадачы ў адпаведнасці з правіламі ўсталявання электраўстановак у цяжкадаступных месцах могуць праходзіць на вышыні 3-х метраў ад воднай паверхні. Пры павышэнні тэмпературы паветра магчыма правісанне правадоў, што ў сваю чаргу павялічвае небяспеку паражэння электрычным токам.

Няшчасныя выпадкі з рыбакамі на берагах вадаёмаў у месцах праходжання ЛЭП не такія і рэдкія. Напрыклад, 21 чэрвеня 2009 года трое жыхароў г. Мазыра адправіліся на рыбалку на вадаём ачышчальных збудаванняў. Пры лоўлі рыбы адзін з іх, не звярнуўшы ўвагу на тое, што знаходзіцца пад лініяй 110 кілавольт, наблізіўся вудзільнам да провада лініі, у выніку чаго адбылося перакрыцце па вудзільне на зямлю, і ўсе трое атрымалі апёкі рознай ступені цяжкасці, бо знаходзіліся блізка адзін ад аднаго. Падобны выпадак адбыўся і летась.

Напрыканцы звяртаю вашу ўвагу на асабістую асцярожнасць не толькі пры лоўлі рыбы пад правадамі электрычных ліній, але і пры выкананні работ паблізу апор ЛЭП і трансфарматарных падстанцый.

**Глыбоцкі РЭС папярэджвае!**

Пры ўзнікненні аварыйнай сітуацыі: абрыў провада, пашкоджанне апоры лініі электраперадач, падзення дрэў на лінію электраперадач і іншых пашкоджаннях – ні ў якім разе не набліжайцеся да месца пашкоджання. Неадкладна паведаміце пра здарэнне дыспетчару Глыбоцкага РЭС па тэлефоне **2-62-41.**

■ **А.Г. Абрамчык,**
*дзяржінспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

# Велізарную дапамогу ў рабоце інспекцыі аказвае насельніцтва

**Лета цалкам уступіла ў свае правы, гэта самая спрыяльная пара для рыбаловаў-аматараў: зняты амаль усе забароны на лоўлю рыбы, выкарыстанне плавальных сродкаў, колькасць вуд і кручкоў, і вось ужо сотні рыбаловаў плаваюць на азёрах і рэках у надзеі злавіць ладнага шчупака, ляшча ці ліна.**

За час вясновай забароны і абмежавання (красавік-травень) супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету спынена 63 парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства, па 5 парушэннях узбуджаны крымінальныя справы. Сумы шкоды, прычыненай прыродзе, вельмі значныя, у асобных выпадках – 5 млн. рублёў. За гэты перыяд супрацоўнікамі інспекцыі ў парушальнікаў канфіскавана 3 адзінкі агнястрэльнай зброі, 2 з якіх былі не зарэгістраваны. У парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства канфіскавана 15 браканьерскіх сетак даўжынёй больш за 1 км.; 39 кг. незаконна здабытай рыбы, мярэжы, броднікі, восці і іншыя браканьерскія прылады лоўлі.

Велізарную дапамогу ў рабоце інспекцыі аказвае насельніцтва. За перыяд нерасту на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжрайінспекцыі паступіла 17 паведамленняў пра розныя парушэнні, усе яны праверaны, а 22 парушальнікі прыцягнуты да адміністрацыйнай і крымінальнай адказнасці, штрафу да 50 базавых велічынь.

Так, 28 траўня 2011 года ў міжрайінспекцыю паступіла паведамленне пра тое, што на возеры Янка Шаркоўшчынскага раёна ўсталяваны браканьерскія сеткі. Супрацоўнікамі інспекцыі дадзеная інфармацыя была аператыўна праверана і затрыманы двое мясцовых жыхароў – з сеткамі і незаконна здабытай рыбай. Матэрыялы накіраваны ў раённы суд.

Раней, 18 траўня, дзякуючы інфармацыі грамадзян, супрацоўнікі міжрайінспекцыі затрымалі браканьера на возеры Алойсберг у г.п. Падсвілле – грамадзяніна К., у адносінах да якога Глыбоцкім РАУС узбуджана крымінальная справа за незаконную здабычу рыбы сеткамі.

Супрацоўніцтва міжрайінспекцыі і законапаслухмяных грамадзян з кожным годам становіцца ўсё больш цесным, што гаворыць пра давер людзей да прыродаахоўных службаў, а таксама пра беражлівае стаўленне да прыроды роднага краю.

І ўсё ж хацелася б адзначыць, што грамадзяне ў асноўнай сваёй масе законапаслухмяныя і гатовыя заўсёды аказаць дапамогу ў спыненні фактаў браканьерства, дзякуючы ім шмат хто са злосных браканьераў панеслі заслужанае пакаранне. Велізарны дзякуй усім, хто аказвае дапамогу і падтрымку.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і раслiннага свету просіць усіх грамадзян паведамляць пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства на тэлефоны «гарачай лініі»: 8-02156-2-86-70, 2-80-30, маб. 897-23-02 ці 890-55-28, 249-45-49.

## Віншаванкі

Дарагую сястру

*Марыну Вацлаваўну Наумец*

(в. Ваўкалаты)

**Віншуем з днём нараджэння!**

Пожеланий наших не счесть,
Так зачем же делить их на части,
Если все они, что ни есть,
Заключаются в слове счастье.
Желаем, чтоб жизнь никогда не кончалась,
Беда и печаль на пути не встречались,
Огромного счастья и верных друзей,
Здоровья, успехов и солнечных дней!

*Брат Сяргей і яго сям'я.*

*Зінаіду Акімфіеўну Семеж*

**Ад усёй душы віншуем з юбілеем!**

Нет теплей твоих рук и родней твоих глаз,
И нежней мы не слышали голоса.
Ты молилась за нас и страдала за нас,
А сединки цеплялись за волосы.
Поздравляем тебя мы большою семьёй,
Здоровья и сил пусть хватает,
Пусть невзгоды обходят тебя стороной
И Господь пусть тебя охраняет.

*Муж, дзеці, унукі.*



# Актывісты "Live funny" перадалі садавіну і цацкі выхаванцам сіроцкага прытулка

**29 траўня актывісты забаўляльнай ініцыятывы "Live funny" правялі дабрачынны візіт у прытулак для дзяцей-сірот у вёсцы Станулі. Акцыя праводзілася ў чацвёрты раз і была прымеркаваная да Дня абароны дзяцей.**

■ Кастусь Шыталь

Маладзёны прывезлі выхаванцам прытулка садавіну, слодычы, цацкі, пісьмовыя прылады, відэамагнітафон. Рэчы і сродкі для выхаванцаў прытулка былі сабраныя моладдзю і неабыякавымі гараджанамі. Дапамогу аказалі і прадстаўнікі бізнесовых структур – ПУП «Мабілайфінгруп», ПУП «Лічбавы свет», прыватны прадпрымальнік Таццяна Гігола.

Актывісты "Live funny" планавалі правесці забаўляльную праграму для дзяцей. Але гэта не ўдалося – у момант візіту маладзёнаў выхаванцы прытулку былі на афіцыйным святкаванні Дня абароны дзяцей.

"Моладзь разумее, што адзінокія дзеці патрабуюць клопату і дапамогі, - кажа актывіст "live funny" Кірыл Петрашоў. - Дзеці былі задаволеныя».

# Медыкі папярэджваюць адпачывальнікаў аб небяспецы заражэння цэркарыёзам на нарачанскіх азёрах

**Медыкі папярэджваюць адпачывальнікаў аб небяспецы заражэння цыркарыёзам на нарачанскіх азёрах.**

Як паведаміла 27 мая журналістам у Мінску загадчыца аддзялення камунальнай гігіены Рэспубліканскага цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя Ірына Жаўняк, на Нарачы паранейшаму захоўваецца небяспека заражэння захворваннем, якое вядома ў народзе як «сверб купальшчыкаў» або «кароста рыбакоў». Чакаецца, што сітуацыя нават пагоршыцца пасля таго, як наступяць гарачыя дні. Напрыклад, у гарачы перыяд 2010 года колькасць пацярпелых ад цэркарыёзу ўзрасла больш чым утрая ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года.

Захворванне пераносяць качкі і гусі, якіх шмат у рэгіёне. Пры заражэнні цэркарыёзам на целе чалавека з'яўляецца сып, пухіры, ён адчувае слабасць, галавакружэнне, магчыма павышэнне тэмпературы. Праз 7-10 дзён гэтыя сімптомы знікаюць: лічынкі ў целе чалавека гінуць.



Як сцвярджае Жаўняк, не ўсе людзі аднолькава схільныя да цэркарыёзу. Таму ў Беларусі не ўводзіцца забарона на купанне ў азёрах, дзе магчыма заражэнне. Аб распаўсюджванні цэркарыёзу і мерах яго прафілактыкі традыцыйна паведамляецца на папераджальных знаках на пляжах. Пасля купання ў нарачанскіх азёрах рэкамендуецца прыняць душ у спецыяльна абсталяваных душавых. Пасля яго скуру трэба расцерці грубым ручнікам, што дапаможа выдаліць цэркарыі.

Нягледзячы на тое, што праблема цэркарыёзу існуе на нарачанскіх азёрах не першы год, эфектыўнага яе вырашэння знайсці не ўдаецца. «З прыродай складана змагацца, не нанёсшы ёй урону,»– сказала спецыяліст.

***Анастасія Янушэўская, БелаПАН.***

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

6 – 12 чэрвеня 2011 г.













Вы можаце падаць сваю прыватную абвестку і па хатнім тэлефоне на нумар 166 кругласутачна. Выразна назавіце газету. У дадзеным выпадку – "Вольнае Глыбокае".
Кошт абвесткі аб'ёмам да 5 слоў – 2500 р.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 6 чэрвеня



**06.00,07.00,08.00,09.00, 12.00** (с сурдопереводом), **15.00, 19.00, 23.55** Новости.
**06.05, 07.10** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.15, 11.50** «Деловая жизнь».
**08.20** «Горожане»: Барселона».
**08.50**Выпускные экзамены по белорускому и русскому языкам, по математике на уровне общего базового образования в общеобразовательных и специальных учреждениях.
**09.10 «Маргоша»**
**10.05** Женское ток-шоу
**11.05 «Маруся. Возвращение»**
**12.10 «Астерикс и Обеликс: миссия Клеопатра»**
**13.55** «Любовь и жизнь моя…».
**14.30** Nota Bene.
**15.15, 19.20** Новости региона.
**15.35** «Случайные связи».
**16.15** «Илья Резник. Белая ворона шоу-бизнеса».
**17.10 «Маршрут милосердия»**
**17.55 «Маруся. Возвращение»**
**18.50, 01.50** «Зона Х».
**19.30** «Арена».
**19.55 «Маргоша»**
**21.00** «Панорама».
**21.45** «Командировка».
**21.55«Приговоренный»**.
**00.05** «Эпоха». Итоги 64-гоКаннского кинофестиваля.Ф1-й.
**00.35 «Доктор Хаус-4»**. Заключит.серия.
**01.25** «Проверка слухов».
**02.00** День спорта.

АНТ

**06.00, 09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10** «Смак».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10 «Любительница частного сыска ДашаВасильева»**
**12.20** «Детективы».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** Тележурнал «Союз».
**13.45** «Модный приговор».
**14.50** «Понять. Простить».
**15.25** «Хочу знать»
**16.00** Наши новости
**16.10** Новости спорта.
**16.15 «Обручальное кольцо»**
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20**«Обратныйотсчет». «Берегисьавтомобиля, или схватка с автопромом».
**18.55** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05**«Открытый формат».
**22.10 «Белый шум»**. Канада, 2005.
**00.00 «Крем»**
**00.50**-01.20 Ночные новости.



**06.30 «Универ»**
**07.00** «ЛАДное утро».
**08.00** Телебарометр.
**08.05 «Ты моя жизнь»**
**09.10 «Капитан Алатристе»**
**11.45** Пра мастацтва.
**12.10** Школа ремонта.
**13.05** «Час суда. Дела семейные».
**14.10 «Тень самурая»**. 1-я серия.
**15.10** «Дети нового поколения». Девятые классы. Финал.
**16.15** Мультсериал **«Незнайка на Луне»** (Россия).
**16.45** Внеклассный час.
**17.00** «Навіны надвор'я».
**17.25** «Граница. Рижский договор»
**18.00 «Ты моя жизнь»**
**19.05** «Хали-гали». Скетч-шоу.
**19.45«Государственная граница»**. Фильм восьмой,заключит. **«На дальнем пограничье»** 2-я с.
**21.00** Калыханка.
**21.15** Телебарометр.
**21.20** КЕНО.
**21.25** Белорусское времечко.
**22.25 «Универ»**
**23.00** Любовная драма **«Франка»**



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40 «Наши соседи»**. Сериал.
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** «Фантастика под грифом«Секретно»: «На пути к бессмертию».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг». Наталья Тамело против группы «Лесоповал».
**15.00** Концерт Михаила Задорнова.
**16.00** «КультУРА!».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Огонь любви»**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.35** «Кинопонедельник»: **«ФЛЭШ.КА»**. Россия, 2006 г.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Столичный футбол».
**23.30** «Кино»: **«ПОСЫЛКА»**. США, 2009 г.



**7:00 Т**ыдзень у «Аб'ектыве»
**7:30 Г**історыя пад знакам Пагоні
**7:35 «Час гонару»**: 32 серыя
**8:25 Ч**аму дэмакратыя? 1 серыя: «Прашу галасаваць за мяне»
**9:20 П**рыватная калекцыя
**9:40 Н**а колах
**10:10** Без рэтушы: «Людзі старой веры», дак. фільм, 2008 г., Беларусь
**10:40 «Бульбаны»**, мультсерыял
**10:50** МакраФон: «Рок-карона–2010»: ч. 4
**11:20** Моўнік
**11:30** Басанож па свеце
**12:00** Аб'ектыў
**12:05 «Мой брат – адзіны сын»**
**13:45 «Час гонару»**:32 с
**14:30 «Бульбаны»**, мультсерыял
**14:40** Чаму дэмакратыя? «Прашу галасаваць за мяне»
**15:35** На колах
**16:05** Без рэтушы: «Людзі старой веры», дак. фільм, 2008 г., Беларусь
**16:30** Эксперт
**17:00** Аб'ектыў
**17:05 «Ранча Піковая Сямёрка»**: 5 серыя
**17:30 «Час гонару»**:32 с
**18:15**«Прашу галасаваць за мяне»
**19:10** Побач з намі
**19:30** Аб'ектыў
**19:35** Калыханка для самых маленькіх
**19:45**БеларусыўПольшчы
**20:00** Еўропа сёння
**20:25** Вагон
**20:30** Эксперт
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Прэс-экспрэс
**21:40 «Мой брат – адзіны сын»**
**23:20** Аб'ектыў

